 


# ПАГОНЯ

Чацвер
28 снежня 2000 г.
№ 49 (496)
Кошт 74 рублі


# Віншуем з 2001!
# У Новы год разам з ПАГОНЯЙ!

## Святкуем – кожны дзень! Кожны – па-свойму!!

У апошнія переднавагоднія дзянькі галоўны клопат - набіць кошык пад самую завязку прыпасамі на святочны стол. Тут ёсць выбар - альбо бегчы ў краму, альбо на кірмашы, якіх сёлета ажно два - пад галоўнай елкай горада на плошчы Леніна і ў Лядовым палацы.

Акрамя таго, амаль кожны дзень Святак у горадзе будуць навагоднія і калядныя праграмы і канцэрты. Словам, што ні дзень - то ранішнік ці баль-маскарад. Што каму па душы.

**29 снежня (пятніца)**

11.00-15.00 Кірмаш на плошчы Леніна

12.00-15.00 Канцэртная праграма (плошча Леніна)

11.00-12.00 Радыёгазета «Гродна сустракае трэцяе тысячагоддзе»

10.00-18.00 «Дзень падарункаў і нечаканых набыткаў» у Лядовым палацы спорту

18.00 - Алімпійскі баль (вучэльня мастацтваў)

**30 снежня (субота)**

11.00-15.00 - Кірмаш на плошчы Леніна

11.00-12.00 - Радыёгазета «Гродна сустракае трэцяе тысячагоддзе»

12.00-14.00 - Закрыццё выставы-кірмаша ў Лядовым палацы спорту. Навагоднее прадстаўленне. Канцэртная праграма.

**31 снежня 2000 года – 1 студзеня 2001 года**

02.00-05.00 - Культурна-забаўляльная праграма «Сустракаем трэцяе тысячагоддзе» (плошча Савецкая).

**1 студзеня 2001 года**

14.00-18.00 - Культурна-забаўляльная праграма ў мікраараёнах: «Дзевятоўка», «Вішнявец», ля кінатэатра «Кастрычнік», на плошчы Леніна «Каля навагодняй елкі».

**4 студзеня 2001 года**

16.00 - Навагодняя праграма з удзелам кіраўніка адміністрацыі Кастрычніцкага раёна горада Гродна (цэнтр «Прамень», па запрашэннях)

**4-6 студзеня 2001 года**

11.00-15.00 - Кірмаш на плошчы Леніна

12.00-15.00 - Канцэртная праграма (плошча Леніна)

**7 студзеня 2001 года**

12.00-15.00 - Кірмаш на плошчы Леніна

12.00-16.00 - Культурна-забаўляльная праграма «Запрашаем на Каляды» (плошча Леніна)

**14 студзеня 2001 года**

14.00-15.30 - Калядная праграма «Надзея XXI стагоддзя» (Гарадскі дом культуры).




28, 29 снежня - воблачна, з праясненнямі, часам - мокры снег, вецер паўночны, 4-6 м/с. Тэмпература паветра 28, 29 снежня - уначы 0...-5, удзень +1...-3.



## «Чароўнае люстра» ў тэатры

**Вось ужо другі тыдзень у Гарадзенскім тэатры лялек доўжацца калядныя ранішнікі для юных гледачоў. Гэтым разам тамтэйшыя артысты вырашылі здзівіць сваіх прыхільнікаў нетрадыцыйным падыходам да святкавання Новага года. Усё ж такі падзея неардынарная - змена стагоддзяў і тысячагоддзяў!**

Спачатку госці запрашаюцца ў залу на прадстаўленне «Чароўнае люстра». На сцэне пад гукі таямнічай музыкі з'яўляецца Чараўніца ў суправаджэнні іншапланецянаў. У халодна-зімовым ззянні месяцовага святла яны выконваюць рытуальны танец. Але, калі Чараўніца пытаецца ў магічнага люстра, ці не яна самая прыгожая на свеце, люстра ёй адказвае, што акрамя яе існуе яшчэ маладзенькая красуня - Снягурка. Тут і разгортваецца ўся інтрыга. На сцэне па чарзе з'яўляюцца іншыя героі дзеі. Гандлярка марозівам у постаці Снежнай Бабы, сама Снягурка, мудрая Варона, урэшце Дзед Мароз і нават добрая Баба Яга..

Але ўсё заканчваецца цудоўна, і ўсцешаныя гледачы запрашаюцца на другую частку імпрэзы - у фае пад навагоднюю елку, дзе гуляюць з Феяй, Снягуркай, Карлсанам і, эразумела, з Дзедам Марозам у забаўныя гульні.

Застаецца дадаць, што глядзелі ў Чароўнае Люстра і рыхтавалі навагоднія свята для дзетак і дарослых рэжысёры Алег Жугжда і Мікалай Андрэеў, мастакі Ларыса Мікіна і Вольга Разумава, артысты Галіна Закрэўская, Ларыса Мікуліч, Вячаслаў Корнеў, Людміла Паўлоўская, Юрый Мянько, Тамара Лабар, Юрый Буракоў, Святлана Баброўская, Аляксандр Енджэеўскі, Наталля Будрык ды іншыя творчыя людзі.

**Ігар Гандлеўскі**

## На Каляды і кракадзілы танцуюць

**Змяя для нашых шыротаў - даволі рэдкі звер. І сустрэча з бліскучым чорным шнуром з вачамі дзе-небудзь на ўзлеску ці ў полі ля дачы выклікае ў нас несвядомы прыступ страху, агіды, але і цікаўнасці. А між тым, пад знакам Змяі нам давядзецца пражыць увесь першы год новага тысячагоддзя. Па ўсходняму гараскопу 2001 год - год Белай Змяі.**

**І чым раней завяжаць знаёмства з прадстаўніцай свята халаднакроўных, тым ўдачлівей будзе Новы год. А дзе больш убачыш паўзуноў, як не ў тэрарыуме гарадзенскага заапарка?**

Загадчыца тэрарыума Любоў Міхайлаўна Падабед адчувае сябе тут у сваёй стыхіі. Смела заходзіць у апартамент алігатара, угаворвае не шыпець на фотаапарат сетчатага пітона і бярэ на рукі тыгровага пітона-альбіноса.

- *Кракадзіл (калі правільна, то алігатар) - гэта наш персанальны пенсіянер,* - жартуе Любоў Міхайлаўна, - *самы што ні на ёсць старажыл. Набылі мы яго яшчэ ў 1953 годзе. Шасціметровы сетчаты пітон, самы вялікі жыхар тэрарыума, жыве ў нас ужо 14 гадоў. Як раней, то шмат набывалі звяр'я ў іншых заапарках. А цяпер уся праблема ў грошах, якіх у нас няма. Таму апошнія чатыры гады мы нікога не куплялі. І вось толькі ў лістападзе гэтага года з Пецярбургскага заапарка прывезлі пару стройных удаваў, пару гіганцкіх і сінявокіх сцынкаў.*

Выяўляецца, кормяць нашых змяюк толькі два разы на тыдзень - у панядзелак і чацвер. У гэтыя дні з 14 гадзін тэрарыум зачыняецца на вялікі абед. Такое двухразовае (праўда, на тыдзень) харчаванне абумоўлена асаблівасцямі стрававання змеяў. Напрыклад, атрутныя змеі пераварваюць здабычу тры дні, неатрутныя - тыдзень. Ёсць і гурманскія асаблівасці ў змеяў. Так, ні ўдавы, ні пітоны, ні анаконды гарадзенскага тэрарыума цярпець не могуць чорных трусоў на абед. Ім больш падабаюцца рабыя і шэрыя, а белыя - наогул любімы пачастунак. Самкі анаконды больш схільныя да трусоў, самцы - да птушкі і рыбы. А кобрам наогул падавай толькі жабак.

Дарэчы, у нашых змеяў не бяруць яд, таму яны застаюцца небяспечнымі.

- *Змяя ніколі не застаецца бяззбройнай,* - гаворыць загадчыца тэрарыума. - *На месца зламанага зуба тут жа з'яўляецца новы, яд ніколі не пераводзіцца. Але дарма думаць, што змяя - агрэсіўная жывёліна. Змеі спрабуюць пазбегнуць кантакту з чалавекам, імкнуцца схавацца куды-небудзь. І толькі калі няма куды падзецца - могуць напасці. Наогул, у людзей шмат стэрэатыпаў наконт змеяў. У нас лічыцца добрай справай забіць змейку, нават бяскрыўднага вужаку ці яшчарку-верацянніцу. А між тым, амаль усе мясцовыя віды змеяў занесены ў Чырвоную Кнігу. І не такія ўжо паўзуны злыя і флегматычныя...*

А характар у змяі своеасаблівы, што і знайшло сваё адлюстраванне ў характарыстыцы будучага года па японскаму гараскопу. Змяя - начная істота, палюе, у асноўным, уначы, а днём спіць. Пасля абеду любіць дні тры паспаць, пераварваць труса. Любяць прыбірацца - 5-10 разоў на год мяняюць старую скуру на новую. Любяць змеі адзіноту. Лепш пачуваюць сябе, калі з'яўляюцца самастойнымі гаспадарамі сваёй тэрыторыі. Спароўваюцца толькі ў шлюбны перыяд для стварэння патомства, а потым ведаць адно аднаго не жадаюць.

Адпаведна словам Любові Міхайлаўны, жыхары тэрарыума - стварэнні зусім не эмацыйныя і да чалавека ставяцца з ігнараваннем. І толькі алігатар з ігуанамі пазнаюць супрацоўнікаў тэрарыума, якія за імі дагледаюць і кормяць. А ў панядзелак, 25 снежня, алігатар моцна здзівіў дзяжурную. Паводле яе словаў, «персанальны пенсіянер» на Каляды скакаў і весяліўся ва ўсю, плёскаўся ў басейне і бегаў па сваім шкляным доме.

А з экзатычных жыхароў тэрарыума тут ёсць парагвайскія анаконды, пітон-альбінос, маісавы полаз-альбінос. З мясцовых жывёлінаў - трытоны, жабкі, яшчаркі, саламандры. У першы дзень новага года, акурат у абедзены дзень панядзелак змяюкам будзе даволі смачнае меню. Яны вельмі любяць грызуноў, прычым толькі жывых. Мышак розных памераў і тлустасці пакуль што ў дастатку, балазе, вырошчваюцца тут жа, у заапарку. Так што вясёлых святаў вам, сімвалы года!

**Алена Сіневіч**

 

ПАГОНЯўцы ВІНШУЮЦЬ...



**Мікола Маркевіч:**

*Уладзімір Караткевіч некалі слушна зазначыў, што Беларусы заўсёды за кагосьці і ніколі - самі за сябе. Няхай наступны год зменіць гэтую самаедскую традыцыю. Толькі ўсвядоміўшы свой уласны Інтарэс, праявіўшы нацыянальную Салідарнасць, мы здолеем навесці належны парадак у нашым Доме. Няхай у нашых сем'ях запануе шчасце і дабрабыт! Няхай адыйдзе ў нябыт тое чорнае і агіднае, што гаспадарыць апошнія гады на нашай Бацькаўшчыне, вынішчае нашу Мову, нашу Культуру, наш Дух! Няхай дзеці нашыя будуць вясёлымі, жанчыны - шчаслівымі, а мы ўсе разам - здаровымі і багатымі! Няхай у новым тысячагоддзі Беларускі Род займее ганаровае, належнае яму па праву, месца ў сям'і еўрапейскіх народаў! З Новым годам, браты-беларусы!*

# 2000-ы год можа стаць годам Вялікага пералому

**Пры ўсёй цяжкасці цяперашняга жыцця, пры ўсёй трагічнасці прымітыўнай барацьбы за выжыванне ў цэнтры Еўропы на пачатку новага тысячагоддзя, пры ўсім убостве маральнага асяроддзя, культывуемага ўладаю, у нас ёсць спадзяванні на тое, што Новы 2001-ы год можа стацца годам Вялікага Пералому. Веру, што беларусы нарэшце скарыстаюць свой гістарычны шанец, які лёс сімвалічна звязаў з першым годам новага тысячагоддзя.**

Як павінен выглядаць гэты будучы Вялікі перапом, што ён павінен зламаць, а што пакінуць? Думаецца, што ў наступным годзе будзе зламаная, найперш, наша агрэсія, скіраваная супраць саміх сябе.

Доўгі час нас прывучалі да непавагі да саміх сябе. З маленства нам імкнуліся давесці, што мы нічога не вартыя. Без партыі, без місіянскай мэты, без «старэйшага брата». Без нафты, без ядзернай бомбы, без правадыроў, якія вядуць нас на бітву за чарговы «-ізм».

Мы перасталі паважаць сябе. Мы шчыра перакаваліся ў тым, што ўсё наша - другаякаснае ці нават шкоднае. Што сапраўдныя, шляхетныя каштоўнасці супярэчаць нашай аўтэнтычнасці. Мы сталі з імпэтам вынішчаць закладзены ў нас гісторыяй і прыродай нацыянальны светапогляд. Сталі ненавідзець сябе за тое, што ўсё яшчэ з'яўляемся носьбітамі этнічнай самабытнасці, якую атаясамлялі з непаўнавартасцю...

Ад дня абвяшчэння незалежнасці мінула амаль дзесяць гадоў. Мы не выкарысталі распаду камуністычнай імперыі, каб аб'яднацца ў адзіны народ. Нашу агрэсію супраць саміх сябе скарыстала новае пакаленне савецкай наменклатуры. Яно распальвае самаразбуральную агрэсію беларусаў дзеля ўтрымання сваёй хцівай улады.

Да гэтай пары ўлада паспяхова нацкоўвала адну частку народа на другую. Рабочых - на сваіх дырэктараў. Чыноўнікаў - на прафсаюзы. Старых - на маладых. Рускамоўных - на «нацыяналаў». Канфесійных «грэкаў» - на «рымлянаў». Пакупнікоў - на гандляроў. Ментоў - на цывільных. Але ўсяму прыходзіць канец.

Нам абрыдла ваяваць супраць саміх сябе. Мы хочам міру, хочам працаваць, а не «біцца за высокія паказчыкі». Хочам расціць дзяцей і ўнукаў, а не «выхоўваць маладое пакаленне змагароў супраць». Мы хочам адчуваць грамадзянскую еднасць, а не вынішчаць сваю самасць. Ганарыцца сваёй непаўторнасцю. Проста жыць у згодзе з сабою і светам.

Наступны год дае нам магчымасць змяніць неспрыяльны рух гісторыі. Аб'яднацца. Скіраваць сваю агрэсію на тых, хто паставіў нас на мяжу выжывання. Усяго і трэба, што пайсці і прагаласаваць. За сябе. Гэта не будзе проста, але будзе. Бо павінна быць.

**Сяргей Самасей**

ПАГОНЯўцы ВІНШУЮЦЬ...



**Павал Мажэйка:**

*Не хацелася б у чарговы раз беспадстаўна спадзявацца на лепшае заўтра! Таму жадаю ў новым тысячагоддзі ўсім нам найперш ветру. Моцнага. Які прачысціць нашыя галовы, выдзьме увесь бруд, якога шмат намяло нам за апошнія сем гадоў. Чамусьці падаецца, што гэты вецер адначасова шчыльней змацуе нашыя шэрагі і прымусіць з'явіцца на тварах прыязнай усмешцы.*

*З Новым годам! З Новым ветрам!*



**Алена Сіневіч:**

*З Новым годам, дарагія Пагоншчыкі, сябры і чытачы ПАГОНІ! Мая мара - пражыць разам з вамі ўсё новае трэцяе тысячагоддзе. Лічба «3» у народзе лічыцца магічнай, то няхай яна прынясе вам і нам адно толькі поспех і ўдачу! А ў цудоўную навагоднюю ноч няхай пырскі шампанскага ператворацца ў дыяменты шчасця і назаўсёды ўсмокчуцца ў сцены, столь і фіранкі вашых пенатаў. Шчасця, кахання, багацця нам усім!*

# Стражаў паставіў Дубко «выдатна»

**Гарадзенскі губернатар Аляксандр Дубко ганараваны Знакам «Выдатнік адукацыі». Гэтую ўзнагароду яму ўручыў перад адкрыццём сесіі Гарадзенскага аблсавета міністр адукацыі Васілій Стражаў. Ён сказаў, што гэтае рашэнне Калегіі міністэрства прадыктавана жаданнем адзначыць актыўную дапамогу Аляксандра Дубко сістэме, кіруемай спадаром Стражавым.**

Затым міністр звярнуўся да прысутных у зале дэпутатаў: «Сябры, бярыце прыклад з Аляксандра Дубко - аказвайце падтрымку нашай адукацыі!». Дэпутаты паапладзіравалі. Мажліва, хто-небудзь з іх у адказ на заклік у думках прыкінуў магчымасці свайго кашалька і ўнёс у сямейны бюджэт графу «на адукацыю». Але хутчэй за ўсё, гэтыя выдаткі не перасягнуць кошту сшыткаў, ручак і контурных картаў для ўласнага сына. Так што, Аляксандр Іосіфавіч, зноў уся надзея толькі на Вас. А спадар Стражаў (калі ён будзе займаць пост міністра) у наступным годзе хай гатуе другую ганаровую ўзнагароду.

**Ул. інф.**

**P.S. Да чаго ж дайшоў плюралізм меркаванняў па аднаму і таму ж пытанню. Напрыклад, наконт становішча ў сістэме адукацыі. На гэтай жа сесіі дэпутат з Мастоўскага раёна (адзіны беларускамоўны выступоўца), дырэктар сярэдняй школы з Лунна агучыў такія факты: на 10 вучняў у гэтым раёне прыпадае 0,9 камп'ютара. Часта гэта зусім састарэлыя мадэлі кшталту «Карвет», а ў некаторых вясковых школах нават і такіх няма. У самой лунінецкай школе халадно, таму што няма грошай, каб перавесці ацяпленне на газ. Катастрафічна не хапае настаўнікаў. А хто будзе працаваць за 20 тысяч - аклад выпускніка ВНУ? Яшчэ горай становішча з кадрамі ў ПТВ. Паводле словаў дэпутата ад Паўднёвай акругі, адсутнасць іх у гарадах складае 15 працэнтаў, на сяле - 50 працэнтаў. Пра недабудаваныя школы, наогул, - асобная гаворка.**

# Бюджэт з латкамі

**Усяго дзве гадзіны спатрэбілася дэпутацкаму корпусу Гарадзенскага абласнога Савета, каб прыняць на сваёй сесіі 14 снежня асноўны фінансавы дакумент - бюджэт вобласці на 2001 год, а заадно і яшчэ некалькі рашэнняў.**

Спачатку дэпутаты выслухалі даклад старшыні камітэта па эканоміцы Галіны Ляшчук. З выступлення спярша вынікала, што ў нас у эканоміцы ўсё добра. Усе гадавыя паказчыкі па прыросту ўнутранага валавога прадукта, імпарту і экспарту перасягалі 100 працэнтаў у дачыненні да ўзроўня мінулага года, рост рэальных даходаў насельніцтва склаў больш як 9 працэнтаў, вытрымліваюцца на ўзроўні запланаваных тэмпы росту жылля, беспрацоўе - толькі 2 працэнты, першачарговая выплата зарплаты забяспечваецца, стабілізавалася становішча ў сельскай гаспадарцы. Але далей спадарыня Ляшчук перайшла да праблемаў: сярод негатыўных тэндэнцыяў - неплацяжы прадпрыемстваў, асабліва пагражальнае становішча з сельскай гаспадаркай. Яе плацежаздольнасць не дасягае і 27-і працэнтаў, расце колькасць стратных прадпрыемстваў, ёсць вялікія праблемы са збытам.

Прагноз развіцця эканомікі вобласці на будучы год не дадае аптымізму: давядзецца змяншаць выдаткі, на эмісію разлічваць няма чаго, яна таксама зменшыцца, чакаецца падзенне экспарту (спадарыня Ляшчук прызнала, што прадукцыя расейскай і ўкраінскай вытворчасці больш канкурэнтаздольная), няма вялікіх спадзеваў і на інвестыцыі (без каментару), у сельскай гаспадарцы зноў чакаецца востры недахоп абаротных сродкаў, у прамысловасці працягваецца якаснае зніжэнне патэнцыялу і канкурэнтаздольнасці.

Высновы спадарыні Ляшчук пацвердзіў у сваім дакладзе пра выкананне абласнога бюджэту за 2000 год і аб праекце на 2001 год начальнік абласнога Упраўлення фінансаў Міхаіл Шабан. Ён назваў колькасць прадпрыемстваў вобласці, якія недадаюць бюджэту, - 106. Пытанне збыту выробленай прадукцыі стаіць надзвычай востра. Яе на складах гарадзенскіх прадпрыемстваў - на 33 мільярды рублёў. У ліку такіх прадпрыемстваў - Тонкасуконны камбінат, Гарадзенская мэблевая фабрыка, завод «Белкард» («Карданныя валы») і нават Пальчаткавая фабрыка. Ды што прамтавары, гарэлкай затавараныя склады! Яна стала нерэнтабельнай для прадпрыемстваў. У выніку ўсяго абласны бюджэт недаатрымаў адзін мільярд рублёў.

Курс «паступальнага» развіцця эканомікі вобласці, як высветлілася, не зведае зменаў у 2001 годзе. Як заўжды, мяркуецца значная падтрымка сельскай гаспадаркі амаль на 10 мільярдаў рублёў субсідыяў. А на фонд развіцця сяльгасвытворцаў бюджэт выдаткуе 18,7 мільярда рублёў.

Наш бюджэт, як вядома, мае «яркую сацыяльную скіраванасць». Спадар Шабан, кажучы пра расходы ў 2001 годзе, паабяцаў, што на адукацыю будзе выдаткавана ў 1,9 раза болей, чым у бягучым, на ахову здароўя - у 2,1 раза, на культуру - амаль у 2 разы больш.

Інфармацыю пра даходы і расходы абласной эканомікі дэпутацкі корпус слухаў надзвычай спакойна. Ды што, уласна кажучы, хвалявацца. Усім вядома, хто за нас за ўсіх турбуецца, думае і вырашае. Тым больш, што бюджэт краіны ўжо звярстаны.

Зрэшты, дзеля справядлівасці трэба сказаць, што некалькі дэпутатаў ўсё-ткі выступілі. Яны казалі пра вострыя праблемы адукацыі, аховы здароўя і будаўніцтва ў сваіх раёнах, відавочна, разлічваючы на дадатковыя субсідыі. Ды хто ж ім дасць? Спадар Шабан на заклік дэпутата з Іўя, галоўнага ўрача бальніцы, пагасіць даўгі аховы здароўя па запазычанасці за энергію, сказаў, як адрэзаў: «Бюджэт бягучага года не дазволіць пагасіць даўгі аховы здароўя».

Самастойнасць мясцовых бюджэтаў досыць абмежаваная. Усё роўна на ўсё не хопіць. Таму ніякіх дэбатаў па бюджэту нават не ўзнікла. За яго прагаласавалі аднагалосна.

У такім жа адзіным памкненні, узнімаючы мандаты на заклік: «Хто - «за»?», дэпутаты прагаласавалі за павелічэнне стаўкі фіксаванага падатку з прадпрымальнікаў і за тое, што гарадскі пасёлак Свіслач цяпер стане яшчэ адным горадам у нашай вобласці.

**Ніна Палуцкая**

**Міні-каментар адносна «сацыяльнай скіраванасці» бюджэту:** Вядома, што на сённяшні дзень заробак высокакваліфікаванага супрацоўніка дзяржаўнага музея не перавышае 30 тысяч рублёў. Двайное павелічэнне сродкаў на культуру ў будучым годзе ў выпадку прапарцыянальнага іх размеркавання прадугледжвае, што заробная плата гэтых людзей падвысіцца аж да...60 тысяч рублёў. І гэта пры ўмове выканання бюджэту.




# Рэгіёны за Домаша

**Кіраўнікі грамадзкіх, палітычных і прафсаюзных арганізацыяў усіх шасьці абласьцей Беларусі, якія ўваходзяць у Каардынацыйную Раду «Рэгіянальная Беларусь», заявілі пра тое, што Сямён Домаш адпавядае ўсім патрабаваньням, што прад'яўляюцца да адзінага кандыдата ад аб'яднанай беларускай апазыцыі на маючых адбыцца прэзыдэнцкіх выбарах. Лідары рэгіёнаў прапануюць грамадзкасьці Беларусі падтрымаць іх рашэньне.**

Сямён Домаш нарадзіўся ў 1950 годзе ў Ляхавіцкім раёне Берасьцейскай вобласьці. Мае тэхнічную й вышэйшую эканамічную адукацыю. Шмат гадоў працаваў у сыстэме аўтатранспарту, быў дырэктарам Гарадзенскага аўтакамбіната №1. 1987-1990 гг. - старшыня лідзкага гарвыканкаму. 1990-1993 гг. - старшыня гарадзенскага гарвыканкаму. У 1993-1994 гадох быў губэрнатарам Гарадзенскай вобласьці. З 1994 году ўзначаліў Гарадзенскі абласны Савет дэпутатаў і аблвыканкам. Дэпутат Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня. Член Прэзыдыюма Вярхоўнага Савету з траўня 1995 году. Займаўся пытаньнямі мясцовых саветаў дэпутатаў, кантактамі зь беларускай дыяспарай, пытаньнямі матар'яльна-тэхнічнага забесьпячэньня дзейнасьці Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь. Падчас лістападаўскага рэфэрэндуму 1996 году выступіў супраць Аляксандра Лукашэнкі, падпісаўшы імпічмэнт. Адзіны рэгіянальны лідар, які адкрыта перайшоў у апазыцыю да прэзыдэнта. З 1999 году ўзначальвае аб'яднаньне «Рэгіянальная Беларусь» - структуру, якая аб'ядноўвае дэмакратычныя арганізацыі й адзьдзяленьні партыяў і рухаў у рэгіёнах краіны. Кіраўнік аб'яднаньня «Гродзенская ініцыятыва». У Каардынацыйнай радзе дэмакратычных сілаў прадстаўляе Гарадзенскую вобласьць. Кандыдат у майстры спорту па боксу. Жанаты, мае двох сыноў. Праваслаўны. Беспартыйны. За прыклады ў палітыцы ўважае Вітаўта Вялікага, Вацлава Гавэла і Рональда Рэйгана.



Сямён Домаш

# Шпіёнаў і агентаў просяць не турбавацца

**Неяк упраўленне N28 армейскага корпуса для вялікай групы гарадзенскіх журналістаў наладзіла паездку на Гожскі палігон. Паглядзелі, нават пастралялі і афіцэрскай кашы пакаштавалі. Задавалі пытанні і атрымлівалі адказы. Нехта з маладых спытаў:**

**- А колькі ў вас танкаў?**

**- Дастаткова для выканання пастаўленых задачаў, - адказаў палкоўнік.**

**І тут Пятровіч, старэйшы гарадзенскі фотарэпарцёр, душа неўтаймаваная, выгукнуў:**

**- Што ты пытаешся? Купі «Газету Выборчу» - і даведаешся!..**

Тады ўсе ўспрынялі гэта як удалы жарт. Але якім было маё здзіўленне, калі нядаўна ў сістэме газетаў Паўднёвай Літвы «Хроніка» (друзгеніцкай, варэнскай ды іншых) патрапіўся мне матэрыял з унушальнай назваю «У нашыя вароты грукае кулак у браніраванай пальчатцы», у якім былі пералічаныя ўсе беларускія танкі, бронетранспарцёры ды інш., прычым з дакладным указаннем месцаў дыслакацыі!

Не верыце? Ну дык давайце пачытаем разам, што пішуць літоўскія газеты. Калі я памылюся, няхай генерал Гурулёў мяне паправіць.

Значыць, Гродна, 28-ы армейскі корпус. Рэгістрацыйны нумар 3111000. Месца размяшчэння штаба 53 градусы 40 мінутаў 10 секундаў паўночнай шыраты, 23 градусы 50 мінутаў 30 секундаў усходняй даўгаты. Падпарадкоўваецца наўпрост Міністэрству абароны Рэспублікі Беларусь. Колькасць асобовага складу - 11994 чалавекі. Баявыя танкі Т-72 - 2; баявыя браніраваныя машыны БТР-70 - 90; БМП-1 - 18; БРМ-1 - 51; БМП-2 - 308. Іншыя баявыя браніраваныя машыны - 386. Процітанкавыя кіруемыя ракеты 9П148 - 36, 9П149 - 27. Артылерыя: Д-30, 2С3, 2С12, БМ-21 ды іншыя (разам - 288). Танкавыя мостаўкладчыкі МТУ-20 - 3 адзінкі, МТ-55А - 4 адзінкі.

А вось і канкрэтны адказ на пытанне таго маладога журналіста: што знаходзіцца ў распараджэнні 6-й механізаваная брыгада, якой належыць Гожскі палігон.

Рэгістрацыйны нумар брыгады - 3111200. Месца знаходжанне штаба - 53 градусы 39 мінутаў 40 секундаў паўночнай шыраты, 23 градусы 46 мінутаў 40 секундаў усходняй даўгаты. Падначальваецца 28-му армейскаму корпусу. Колькасць асабовага складу - 2629 чалавек. Баявых танкаў Т-72 - 67 адзінак. Бронетранспарцёраў - 133 адзінкі. Іншых баявых машынаў - 63.

Ну што, паглядзім, што там, у глыбінцы Гарадзенскай вобласці?

11-я механізаваная брыгада нумар 3111300. Месца знаходжання - Слонім, 53 градусы 4 мінуты 50 секундаў паўночнай шыраты, 25 градусаў 19 мінутаў 30 секундаў усходняй даўгаты. Асабовы склад - 2597 чалавек. Танкаў Т-72 - 62 адзінкі, бэтээраў - 132, іншых бронемашынаў - 70...

Калі вам цікава, можна паглядзець, што мы маем у сталіцы. Ва ўсім вядомым Уруч'і ёсць два танкавыя і два мотастралковыя палкі, падначаленыя 120-й дывізіі.

А давайце ўзнімемся з грэшнай зямлі ў паветра. Тым болей, што ўзняцца ёсць на чым. Вось у нас на Гарадзеншчыне 36 самалётаў Су-24 у Росі і 30 самалётаў Су-25 у Лідзе. Увогуле на Беларусі 200 самалётаў МіГ-23, МіГ-29, Су-27. Ёсць яшчэ 157 верталётаў Мі-8, Мі-24, Мі-26. Самалёты і верталёты абслугоўваюць 6318 чалавек.

У Літве гэтыя лічбы выклікалі непрыемны пярэпалах. І гэта не дзіўна! У літоўцаў няма ніводнага баявога самалёта, ніводнага танка, і толькі зусім нядаўна Германія падаравала Літве 154 бронетранспарцёры, што састарэлі маральна і фізічна. Ды і асабовага складу разоў у пяць меней, чым у нас. Праўда, літоўскія салдаты не рыюць канавы, не фарбуюць платы, не падмятаюць тэрыторыю, не ездзяць «на бульбу». Яны толькі трэніруюцца, штодзённа і настойліва. Таму адзін літоўскі салдат, трэба меркаваць, лёгка пакладзе пяць беларускіх... Аднак зараз ваююць не людзі, а тэхніка, так што суцяшэнне слабое.

А цяпер самае цікавае: адкуль у літоўскіх газетчыкаў такія звесткі, што маюць усе прыкметы ваеннай тайны?

Яшчэ ў 1992 годзе ў кнігарнях, лаўках букіністаў Літвы з'явіліся цэлыя пакункі картаў з паметкай «Генеральны штаб СССР» і грыфам «Сакрэтна» маштабам 1:25000. На такіх картах пазначаныя не проста пасёлкі і вёскі, але і кожная сядзіба і, нават, буда ў гэтай сядзібе. Не проста лес, а кожнае асобнае дрэва! Я сам у Вільні бачыў падрабязнейшыя карты Фолюша, вайсковага палігона ў Баранавічах. Паспрабуйце пайсці туды папросту на шпацыр: не-ельга! Сакрэтна!

Калі прачытаў узгаданы вышэй матэрыял у «Кроніцы», пацікавіўся, адкуль такія лічбы ў мясцовых журналістаў. «Табе трэба? Стаў бутэльку!» - быў адказ. Бутэлькі не шкада, але ўсё-ткі: адкуль? Выяўляецца, у Літве такія рэчы ходзяць па руках таксама, як і карты Генеральнага штаба. Калі спытаць сям-там. - можна здабыць любыя звесткі. Літоўцы трымаюцца ўстаноўкі, што сакрэты абавязаныя захоўваць тыя, каму гэтыя сакрэты даручаныя. Калі ж шэраговы грамадзянін знойдзе сакрэтныя паперы на рынку ці проста на дарозе, ён зусім не абавязаны бегчы і здаваць іх «куды трэба», - грамадзянін можа і не ведаць, што гэта сакрэтныя матэрыялы.

І ўсё ж такі, упарта настойваў я: адкуль здабыта канкрэтна вось гэтая інфармацыя пра Узброеныя Сілы Беларусі? Выяўляецца, гэтыя звесткі былі пададзеныя самой Рэспублікай Беларусь у АБСЕ адпаведна нейкай дамоўленасці наконт бяспекі і супрацоўніцтва. Адтуль яны патрапілі ў Інтэрнет, а майстроў выцягнуць з Інтэрнету інфармацыю хапае.

Гэта там, у іх. А вось нам ведаць усё пра сваю краіну забаронена! Яны пра нас ведаюць усё, мы пра сябе - нічога...

**Лявон Храптовіч**

Прадам Радзіму.
Очань Дзёшава.
Абрашчацца: вул. Карла Маркса, 38
Спытаць Сашу
(Толька чэсна)

ПАГОНЯўцы ВІНШУЮЦЬ...



**Сяргей Сноп:**

***Усе мы, нягледзячы на цяжкасці жыцця, спадзяемся, што наступны год прынясе нам адразу ўсяго і шмат: і свабоды, і дабрабыту, і кахання, і чароўных вандровак, і кар'ерных узлётаў. Мы гэтага вельмі доўга чакалі і, думаю, сваёй цярплівасцю і аптымізмам ужо заслужылі!***



**Юлія Дарашкевіч:**

***Яшчэ ёсць да пачатку новага веку трохі часу, каб паспець даравацьусе крыўды і папрасіць прабачэння.***

***Спяшайцеся казаць адзін аднаму добрыя словы!***

***Жадаю вашым сем'ям спакою, даверу і разумення.***

# Паэзія - калядны падарунак

**У мінулы чацвер у Гарадскім доме культуры на пасяджэнні клуба «Паходня» адбылася прэзентацыя анталогіі найноўшай гарадзенскай паэзіі «Лябірынты прывіднага замку».**

Аўтар гэтага праекту, сябра Беларускага ПЭН-цэнтра Юры Гумянюк распавёў пра гісторыю стварэння і канцэпцыю новай кнігі, затым даў слова паэтам - аўтарам анталогіі. Свае вершы чыталі Анатоль Брусевіч, Анжаліна Дабравольская, Васіль Дзівашэвіч, Эдзік Мазько, Юрась Пацюпа. На жаль, не было яшчэ аднаго аўтара кнігі - небезвядомага Віктара Шалкевіча (ён, як заўсёды, недзе «гастралюе»).

Чытанне вершаў скончылася эмацыйнай дыскусіяй. Прысутныя задавалі паэтам вострыя пытанні, асабліва наконт тэхналогіі стварэння паэтычных твораў. Як нараджаюцца вершы? Ці паводле натхнення, ці адпаведна цвярозаму матэматычнаму разліку? Тут Юрасю Пацюпу давялося шмат што патлумачыць аматарам прыгожага пісьменства, падзяліцца сакрэтамі «паэтычнай кухні». Ён выказаў думку, што сярод прысутных знаходзіцца шмат асобаў, якія самі або спрабуюць, або на поўным сур'ёзе пішуць вершы. Так яно і было.

Завяршылася вечарына раздачай аўтографаў, узаемнымі падзякамі ды віншаваннямі. Усе ахвотныя набылі сабе анталогію ў якасці каляднага падарунка.

**Людвік Сарока**

# «Нёман» у Інтэрнэце

**Неафіцыйная старонка футбольнага клюба «Нёман-Белкард» знайшла сваё месца ў «павуціньні» Інтэрнэту.**

Дзякуючы намаганьням энтузіяста Аляксандра Пазьняка заўзятары футболу маюць магчымасць атрымаць любую інфармацыю пра лепшую каманду Гарадзеншчыны: гісторыю клюба, інфармацыю пра яго гульцоў і трэнэраў, агляд гульняў і г.д.

У асобным разьдзеле зьмешчаныя публікацыі, прысьвечаныя «Нёману».

Нягледзячы на адсутнасьць рэклямы, наведвальнікаў старонкі хапае. Гэта заўзятары футболу з розных куткоў Беларусі, «фаны» кіеўскага «Дынама», нашыя белыя землякі, якія жывуць цяпер у іншых краінах, ды інш. Сярод водгукаў наведвальнікаў старонкі ёсць некалькі прапановаў - карыстацца беларускай мовай. Аўтар праекту, аднак, спасылаецца пакуль на недахоп сілаў, каб самастойна зрабіць гэтую справу.

**Віктар Людвіковіч**

# Святая Каложа дачакалася нарэшце будаўнікоў

**Пачаліся падрыхтоўчыя работы па рэканструкцыі схілу Каложскай гары. З Менску прыехала будаўнічая брыгада з пяці чалавек. Каложская царква на гэты час не зачыняецца.**

У новым тысячагоддзі Каложская царква павінна нарэшце дачакацца рэканструкцыі. Зроблены другі праект працаў па ўмацаванні Каложскай гары.

Дырэкцыя рэканструкцыі аблвыканкама пералічыла будаўнікам падраднай арганізацыі грошы на аванс. Як чытачы ведаюць з папярэдніх публікацыяў ПАГОНІ, працы па ўмацаванні схілу Каложскай гары павінны былі распачацца яшчэ напрыканцы кастрычніка. На той час «Гроднаграмадзянпраект» зрабіў і зацвердзіў праект працаў, і рэспубліканскі бюджэт пераверў грошы ў Гродна. Адпаведна дамоўленасці, у наш горад прыехала брыгада будаўнікоў з менскай падраднай арганізацыі «Вытворча-камерцыйнае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Спецбудпраект». Была прывезена спецыяльная тэхніка. Аднак калі менчукі пачалі капаць зямлю, то ўбачылі неадпаведнасць праектных вынікаў «Гроднаграмадзянпраекта» і натуры.

Пасля гэткага праектнага «ляпу» аблвыканкам абавязаў «Гроднаграмадзянпраект» тэрмінова перарабіць праект з тым, каб напрыканцы лістапада - у пачатку снежня ізноў пачаць будаўніча-рэстаўрацыйныя працы.

І што мы маем на сённяшні дзень? Тэарэтычна, любая больш-менш прыстойная паводка можа разбурыць жамчужыну беларускай архітэктуры, па культурнай і гістарычнай каштоўнасці з якой можа параўнацца толькі Полацкая Сафія.

Начальнік Дырэкцыі рэканструкцыі Віктар Качанаў гаворыць, што для нармальнага ўмацавання схілу Каложскай гары неабходна зрабіць два этапа працаў. Першы - умацаванне гары супрацьпаводкавай сістэмай непасрэдна пад падэшвай гары, на набярэжнай. Другі этап - умацаванне падмурку Каложскай царквы бураін'екцыйнымі палямі (сваямі). Якраз першы этап зараз немагчыма ажыццявіць. Прычыны да крыўднага празаічныя. Пад нешчаслівай гарою пракладзена гарадская каналізацыя. Да таго ж, на сённяшні дзень трубы ў аварыйным стане. Зачапі - і адходы са скурзавода хлынуць у Нёман. Да таго ж, гарадскія архітэктары сумняваюцца, што супрацьпаводкавыя сцены трохметровай вышыні на набярэжнай упішуцца ў гарадскі пейзаж. Так што, пакуль што будаўнікі бяруцца толькі за адну частку комплексу працаў - за ўмацаванне падпорнай сценкі Каложскай царквы.

Фатальны збег абставінаў ля Каложы - апоўзень, небяспека разбурэння, нёманскі стромны выгін, аварыйная каналізацыя - прымушаюць думаць пра трагічны лёс храма. І можа, гэта сімвалічна, што хоць нешта для выратавання Каложы мы пачалі рабіць у гэтым тысячагоддзі, а скончым у новым.

**Алена Сіневіч**



**Будаўнічая тэхніка вакол Каложскай Царквы. Ці надоўга?**

# Іваноўскі і Тызенгаўз разам у трэцім тысячагоддзі



У аўторак, 26 снежня, у галерэі Тызенгаўза адкрылася персанальная выстава гарадзенскага мастака Дзмітрыя Іваноўскага. Прывітаць майстра прыйшлі блізкія сябры, калегі з «Таварыства народных майстроў» і аматары ягонай творчасці.

Не было заўважана на выставе аніводнага прадстаўніка гарадской ўлады. Аднак Дзмітрыя Іваноўскага, які ўвесь час актыўна ўдзельнічаў у культурным жыцці Гродна, гэта не засмуціла. Ён нават пажартаваў падчас выставы: «Галоўнае, каб Дзедаў Марозаў не хапалі за тое, што ходзяць у белчырвона-белым».

Выстава Дзмітрыя Іваноўскага будзе доўжыцца яшчэ месяц і ў трэцім тысячагоддзі.

**Павал Мажэйка**

**На здымку: Дзмітрый Іваноўскі**

# Навагодні зварот Самаабранага да беларускага народа

Дарагі мой народ, асабліва жэншчыны!

За пяць хвілінаў да Новага года хачу яшчэ раз чэсна сказаць - у рэспубліцы няма вайны. Гэтае дасягненне мазоліць вочы наймітам апазыцыі і капіталізму. Правіцельства кантралюе сітуацыю. Хаця мы маглі б, як гэтага патрабуюць так званае дэмакратычнае міжнароднае супольніцтва разам з NATO, распачаць вайну. Каму ад гэтага будзе горш? Ды самой «цывілізаванай» Еўропе! Таму мы сказалі гэтаму Віку - валі на х...хауз! Няма ў нас вайны - по...ял, да?!

У гэты святочны момант звяртаюся да маіх салдатаў, афіцэраў, АМАПаў, «алмазаў», «Альфаў», «Віцязяў», «Амазонак». Мы прыйшлі ўсур'ёз і надоўга. Гэта - наша краіна. Мы - народ, а хто не згодны - тыя ворагі народа. Хачу запэўніць вас, што і надалей любы сяржант будзе палучаць больш за любога прафесара. Гэта наша прынцыповая пазіцыя. Каму не падабаецца - хай уматвае да сваіх любых дэмакратаў на Захад, альбо закрые пасць.

Хачу звярнуцца да нашых рабочых і калгаснікаў. Ніхто так зацята не бароніць ваша натуральнае чалавечае права на чарку і шкварку, як наш урад. Хачацца, каб вы былі ўпэўнены ў тым, што ваш празідэнт удзень і ўначы змагаецца з карупцыяй. Калі ваш дырэктар, прадсядацель ці вертыкальшчык усё яшчэ крадзе, то гэта таму, што празідэнт пра гэта не ведае. Пацярпіце, нашыя дарагія, пакуль яму стане вядома пра ўсіх карупцыянераў. Разам з тым, нельга забывацца на тое, што,



каб добра жыць, трэба выконваць усе загады начальства, ухваляць унутраную і знешнепалітычную лінію правіцельства, выяўляць ворагаў народа, ашчадна ставіцца да дзяржаўнай уласнасці, падтрымліваць працоўную дысцыпліну, ні ў якім выпадку не паддавацца на правакацыю гэтак званых прафсаюзаў, не страйкаваць, не мітынгаваць, не пікетаваць, не чытаць гэтак званых незалежных газетаў, не глядзець гэтак званае «НТВ», не слухаць гэтак званую «Свабоду», не абуралца ў чэргах высокімі коштамі, спраўна плаціць падаткі, зборы, штрафы, выходзіць на суботнікі. Дэмакратыя - вялікая, перш за ўсё, адказнасць.

Мае каханыя настаўнікі і ўрачы! Цяпер я падымаю свой бакал за вашыя прафесійныя і чалавечыя якасці. Тут нядаўна быў адзін японец, дык ён не мог зразумець, як мы яшчэ не вымерлі. Мы яшчэ жывыя дзякуючы вашай самаахвярнасці і майму мудраму кіраўніцтву. У гэтак званых развітых краінах за ўсё трэба плаціць: за адукацыю, за лячэнне. Гэта - не наш шлях!..

Творчая інтэлігенцыя, я вас прашу, ад усёй душы, тая інтэлгенцыя, якая выйшла з народа, вярніцеся абратна! А гэтым так званым інтэлектуалам, якія былі нам навязаныя пад выглядам свабоды слова, хачу сказаць з усёй уласцівай мне шчырасцю - не выйдзет!

Дарагі народ! Мы ўступаем у новае стагоддзе. Нас чакае расейскі рубель, інтэграцыя і будаўніцтва газавай трубы. Толькі пад маім кіраўніцтвам рэспубліка зможа адалець ворагаў і пабудаваць краіну, якую пакінулі нам нашыя геараічныя продкі: Мяснікян, Цанава, Малафееў. Жадаю шчасця і здзяйснення ўсіх мараў, асабліва жэншчынам!

**Падслухаў**
**Міхась Капялюш**

## ПАГОНЯўцы ВІНШУЮЦЬ...



### Аксана Бурдзюк:

*Памятайце: на пакрыўджаных ваду возяць. І таму, калі вам не ўсё падабаецца ў вашым жыцці, не трэба крыўдзіцца на сяброў, блізкіх, варта паспрабаваць змяніць яго, пражыць Новы год і Новае тысячагоддзе, як у казачным, чароўным сне! Жадаю, каб на сэрцы была радасць, а не боль і жалоба, каб шчасце, каханне, здароўе ніколі не пакідалі вас і ваш дом! Хай здзейсняцца ўсе самыя запаветныя жаданні!*



### Аляксей Салей:

*Хачу павіншаваць чытачоў ПАГОНІ з Новым годам і пажадаць усім не страчваць мужнасці і аптымізму!*

*Наш дом - Беларусь! Дык няхай жа ў ім запануюць шчасце, утульнасць, спакой, каханне, дабрыня, цеплыня адносінаў, узаемаразуменне між усімі намі! Хай беды і няшчасці ніколі не ведаюць дарогі ў наш з вамі дом, а поруч крочаць поспех і ўдача!*

*З Новым Годам!*

*З Новым тысячагоддзем!*



### Святлана Гібульская:

*З Новым тысячагоддзем вас! Удачы вам і невераготнага шанцавання, невычарпальнай энергіі ды энтузіязму, пяшчоты і нягаснучай маладосці, жыватворнага кахання і простага чалавечага шчасця! Няхай у 2001 годзе ў вас будзе меней крыўдаў і расчараванняў! Хай будзе болей таго, чаго час ад часу так не хапае: цярплівасці, здароўя, грошай, разумення, упэўненасці, змогі, смеласці і ахвоты!*




**ПАГОНЯ працягвае вызначэнне Чалавека стагоддзя Гарадзеншчыны. Нагадваем нашым чытачам, што мэтай конкурсу з'яўляецца пошук такой асобы, якая сваёй дзейнасцю, творчасцю, жыццёвай пазіцыяй як найболей выяўляе дух і ментальнасць нашага рэгіёна. Вядомасць па-за межамі Гарадзеншчыны - таксама немалаважная, хаця і не галоўная, якасць, якой павінен валодаць намінант конкурсу. Ну і, канешне, гэты чалавек павінен быць патрыётам сваёй Радзімы, бо які ж тады ён гарадзенец?**

**Дарагія чытачы! ПАГОНЯ плануе падвесці вынікі конкурсу ў першых нумарах наступнага года. Яшчэ ёсць час, каб унесці свае прапановы!**

# Бог і Праўда на баку Беларусі

Для мяне Чалавекам стагодзьдзя зьяўляецца Ларыса Антонаўна Геніюш. Першая сустрэча з ёю адбылася ў 1993 годзе, калі я трымаў у руках яе «Споведзь». Кніга захапіла ўжо першымі радкамі: «Благаслаўенны родны дом, гдзе бацькі і ўся дарагая сям'я. Благаслаўенны маленькі кусочак роднай бацькавай зямлі на вялізнай планеце, які называўся Жлобаўцы...» «Споведзь» знаёміла з чалавекам, які спалучаў даверлівасць і пяшчотныя адносіны да родных і сяброў з грамадзянскай мужнасцю, з гатоўнасцю, як у камеры Менскай вязніцы ў 1949 годзе, ісьці на сьмерць за Радзіму. Яе можна было забіць, можна было на доўгія гады схаваць за краты, але не было такой моцы, якая б здолела зламіць яе волю, прымусіць да здрады. Аповед пра ўласнае жыццё аднячасна быў беларускай гісторыяй апошняга стагоддзя. І гэтая гісторыя нараджала ўпэўненасьць, што Бог і Праўда на баку Беларусі.



Ларыса Геніюш

...У верасьні 1999 году разам з удзельнікамі навуковай экспедыцыі я стаяў каля магілы Ларысы і Янкі Геніюшаў. Помнік быў упрыгожаны кветкамі й бел-чырвонабелай стужкай. На «расейскапольскіх» (паводле мовы эпітафіяў) зэльвенскіх могілках гэтая магіла выглядала як выклік або як дакор беларусам.

**Алесь Смалянчук**

# Гімн Макара Краўцова натхняе на барацьбу за Беларусь

**Чалавекам стагоддзя на Гарадзеншчыне для мяне з'яўляецца Макар Краўцоў (сапраўднае прозвішча - Макар Касцевіч). Яго жыццёвы лёс увасабляе трагедыю таго пакалення беларускай інтэлігенцыі, якое змагалася за беларускую дзяржаўнасць у 1918 годзе і ў наступныя дзесяцігоддзі.**

Макар Краўцоў паходзіў з сялянаў-асочнікаў (ахоўнікаў велікакняжацкіх лясоў) старажытнай Берштанскай пушчы. Ён нарадзіўся ў заможнай лясной вёсцы Баброўня, жыхары якой умелі працаваць і прагна цягнуліся да навукі і культуры. Да беларускага руху Макар Краўцоў далучыўся ў часе першай сусветнай вайны. Менавіта яго голас, паводле ўспамінаў Антона Луцкевіча, пераважыў падчас дыскусіі адносна незалежнасці Беларусі.



Макар Краўцоў

Свайму патрыятычнаму выбару Макар Краўцоў заставаўся верны ўсё жыццё. Яго славуты гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» натхняў на барацьбу многія пакаленні змагароў за Беларусь. Краўцоў шмат працаваў на ніве літаратуры, перакладаў на беларускую мову славутыя творы многіх вядомых пісьменнікаў. Жыў у беднасці, але не ішоў на супрацоўніцтва з камуністамі, як некаторыя іншыя беларускія дзеячы, добра разумеючы, што нясе беларускаму руху такое супрацоўніцтва. Таму невыпадкова, што менавіта Макар Краўцоў патрапіў у лік тых свядомых беларусаў, з якімі савецкая ўлада расправілася ў першую чаргу. Памяць нашага земляка так і не ўшанавана належным чынам да гэтага часу.

**Сяргей Токць,**
**кандыдат гістарычных навук**

* * *

...Услед за Аляксеем Пяткевічам (віншую яго з юбілеем!) лічу Васіля Быкава Чалавекам стагоддзя (не толькі я!). Нікога не перакладалі так на іншыя мовы, як Васіля Быкава. А на ангельскай мове ёсць нават два варыянты (напрыклад, «Знак бяды», «Сотнікаў»). Але як жанчына і зямлячка Ларысы Геніюш прапаную лічыць і яе Чалавекам стагоддзя Гарадзеншчыны. Разрываецца сэрца паміж двума. Давайце вызначым двух! А чаму нельга?..

**Алена Таболіч,**
**г.Менск**

